Алесь Петрашкевіч

# ПРАГНОЗ НА ПАСЛЯЗАЎТРА

(Фарс у дзвюх дзеях)

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

***Сапежанка.*** Ці ёсць пытанні ў абаронцы?

***Касцюшка.*** Скажыце, сведка, па колькі вы выпілі з Івановым-Чынгізханавым да таго, як да вас падышоў мой падабаронны Каліноўскі?

***Халуевіч.*** Па два кухлі выпілі і па трэцьяму заказалі.

***Касцюшка.*** Піллі чыстае піва ці пад ярша?

***Халуевіч.*** Мы ета падагрэвам называем. Казалупава падаёць толькі пад ярша з падагрэвам. А вот сколькі яна яво ў кухаль запускает – ета вапрос. Нет кантролю, як бывала...

***Касцюшка.*** Колькі куфляў стаяла на вашым стале да прыходу Каліноўскага?

***Халуевіч.*** Ну, ета, спачатку чатыры, а пасля яшчо два. Шэсць стаяла! Шэсць як лёду! Калі шчытаць два полных...

***Касцюшка.*** Ці ставіў на стол свой куфаль Каліноўскі?

***Халуевіч.*** Точна сказаць не магу.

***Касцюшка.*** Больш пытанняў не маю.

Иванов-Чингизханов і Халуевіч

***Сапежанка.*** Прысяжны засядацель Іван Апякін пытаецца: "Як жа вы, шаноўны Ян Янавіч, чалавек не стары, а, можна сказаць, мужчына ў росквіце сіл, кідаеце старога адзін на адзін з забойцам і некуды знікаеце, замест таго, каб абараніць ветэрана, закрыць яго, як бы мовіць, уласнымі грудзьмі".

***Халуевіч.*** Я ўжэ казал, что пабяжал за міліцыяй. А сваю груць под кінжал ці галаву, под кухаль пушчай творчаская інцелегенцыя падстаўляець. Інцярэсна, сколькі вас на абразуру бросіцца. Патом да Батьевіча я радавым халуём нанімаўся, а не целахраніцелем. Ён мне кухаль піва ці чарку, я яму – тараньку. А что сявоння дарожа стоіць – эта яшчо бальшой вапрос.

***Сапежанка.*** Сядайце, сведка Халуевіч!.. Суд аб'яўляе перапынак на пятнаццаць мінут.

*Усе ўдзельнікі суда выходзяць.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

*Пасля трэцяга ўсе ўдзельнікі суда займаюць свае месцы. Канвойныя прыводзяць Каліноўскага.*

***Сапежанка.*** Для дачы паказанняў выклікаецца сведка Казалупава.

*Уваходзіць Козалупова. Спыняецца каля трыбункі насупраць суддзі.*

Прозвішча, імя і імя па-бацьку?

***Козолупова.*** Козолупова Клавдия Кузьминишна. В 1966 году родилась в Пошехонье, с началом приватизации проживаю в Минске. По национальности, естественно, пошехонка из новых русских. Торгую и в партиях не состою. Белорусский изучаю...

***Сапежанка.*** Не трэба так падрабязна.

***Козолупова.*** А вы запишите, вдруг пригодится.

***Сапежанка.*** Адукацыя, месца работы?

***Козолупова.*** "Адукацыя" – достаточная. Место работы – свой пивбар на Коммунистической. Смешно, не правда ли?

***Сапежанка.*** Сведка, Козолупова, не спяшайцеся паведаміць усё адразу. Пачнем з таго, што вы дасцё падпіску гаварыць у судзе праўду, толькі праўду і нічога акрамя праўды. Дакладней, суд папярэджвае вас аб крымінальнай адказнасці за дачу заведама ілжывых паказанняў.

***Козолупова.*** Не надо меня "папярэджваць", я вообще никаких показаний давать не буду.

***Сапежанка.*** Цікава, чаму вы так рашылі?

***Козолупова.*** Хватит с меня того, что следователь из бара не вылазит... Не следователь, а генсек-дегустатор партии пива. А оно у меня не гуманитарное...

***Сапежанка*** *(строга, афіцыйна).* Суд глумачыць вам, грамадзянка Козолупова, што да адказнасці прыцягваюцца не толькі тыя сведкі, якія даюць у судзе ілжывыя паказанні, але і тыя, што адмаўляюцца ад дачы паказанняў.

***Козолупова.*** Что мне конкретно угрожает, если я вообще откажусь участвовать в этом сомнительном деле. Старичок и так бы помер, а теперь из-за хилости одного и наглости второго, я имею в виду этого Суворова, третьего упекут в тюрьму, а то и расстреляют за здорово живёшь.

***Сапежанка.*** Тлумачу: за ілжывыя паказанні, якія звязаныя з абвінавачваннем у цяжкім злачынстве, а таксама з карыслівай мэтай, называюцца пазбаўленнем волі на тэрмін ад двух да сямі гадоў.

***Козолупова.*** Нет, это не для меня.

***Сапежанка.*** Адказ сведкі ад дачы паказанняў наказваецца выпраўленчымі работамі на тэрмін да шасці месяцаў, або штрафам...

***Козолупова*** *(перапыняе).* Выбираю штраф.

***Сапежанка*** *(прадаўжае).* ... або штрафам у межах ад дзесяці да двухсот мінімальных заробкаў...

***Козолупова*** *(лічыць на кішэнным калькулятары).* 1 666 баксов. Многовато, но под силу. Свидетельствовать отказываюсь.

***Сапежанка.*** Адказ ад паказанняў у справах, звязаных з асабліва цяжкімі злачынствамі, а таксама ў карыслівых мэтах, наказваецца штрафам ад дваццаці да пяцісот мінімальных заробкаў.

***Козолупова*** *(лічыць на калькулятары).* Пятьсот тысяч умножаем на пятьсот и делим на курс "зайца" – получаем. Не вытяну, даже если продам бар со всеми потрохами...

***Сапежанка.*** Тады будзем гаварыць праўду, толькі праўду і нічога акрамя праўды?!

***Козолупова.*** Будем говорить то, что знаем, и ни грамма больше.

***Сапежанка.*** Дайце падпіску.

*Казалупава падпісвае паперку ў Агінскай і вяртаецца да трыбункі.*

Паважаны дзяржаўны абвінаваўца, вядзіце допыт сведкі.

***Муравьёв.*** Клавдия Кузьминична, расскажите суду всё, что вы знаете по рассматриваемому делу!

***Козолупова.*** Если я расскажу всё, вы попадаете со стульев.

***Муравьёв.*** Попробуем удержаться.

***Козолупова.*** Моё дело – предупредить. Но сначала позовите этого Суворова. Без него говорить, что на ветер...

***Сапежанка.*** Сведка Суворов запрашаецца ў залу судовага паседжання.

*Уваходзіць Суворов.*

Сведка Суворов, сядайце на сваё месца.

***Муравьёв*** *(да Козолуповай).* Пожалуйста...

***Козолупова*** *(на Каліноўскага).* У этого парня на физе написано, что убить он не может... Нашли килера! Смешно... Лучше бы полюбопытствовали на тех, настоящих, которые ко мне в бар наведываются... И я утверждаю, что не позже и не раньше, как вчерась по полудни, завалил ко мне на Коммунистическую товарищ Суворов. Над бокалом повис, а до пива не дотрагивался. Я его, как императрица, спрашиваю: а что Александр Васильевич не пьёт? А он мне, как фельдмаршал, отвечает: так до первой звезды нельзя, матушка. Я соображаю и к светлейшему князю подсаживаюсь, а он мне и говорит: я тебе, Клава, как прогматик прогматику кладу на лапку дзесяць миллионов зайцев, а ты в суде даёшь показания против националиста и русофоба – нашего общего врага Калиновского. Нет, говорю, Александр Васильевич, не согласная я. Теперь за заказное убийство по десять тысяч долларов дают, а ты мне паршивыми "зайцами". А он мне: "Соглашайся, дура. Когда наши придут, мы за тобой ещё и бар оставим..." Согласилась, а в доказательство слов своих, все десять миллионов вам принесла. Можете пересчитать и оприходовать *(Дастае з сумкі пакункі грошай і кладзе на стол суддзі).*

***Сапежанка.*** Грамадзянін Суворов, устаньце!

***Суворов*** *(паспешліва).* Спасибо за внимание! Я имею заявить суду присяжных нижеследующее: не ранее, не позднее как вчера по полудни госпожа Козолупова заявилась ко мне на квартиру и в ультимативной форме потребовала именно десять миллионов "зайцами" с тем условием, что скажет в суде правду об убийстве Иванова-Чингизханова Калиновским. При этом подчеркнула, что в противном случае, то есть, если я не поддамся на шантаж и провокацию, она заявит в суде, что Калиновский не имеет никакого отношения к убийству Иванова-Чингизханова. Но это совсем не означает, что я дал ей десять миллионов. Считаю, что эти деньги от какого-нибудь Сороса или иного резидента империалистической разведки. Таких, как Калиновский, они в беде не бросают.

***Сапежанка.*** Сядайце, грамадзянін Суворов. Сведка Козолупова, што вы можаце сказаць адносна заявы прадстаўніка пацярпелага?

***Козолупова.*** За такие заявления действительно убивать надо не взирая на лица и звания.

***Сапежанка.*** Прашу пракурора прадаўжаць допыт сведкі Козалуповай!

***Муравьёв.*** Прокурору ясны мотивы столь возмутительного и преступного поведения свидетельницы Козолуповой в суде. Прокурор даст ему соответствующую оценку во время прений сторон.

***Сапежанка.*** Абаронца падсуднага, вашы пытанні да сведкі Козалуповай?

***Касцюшка.*** Скажыце, Клаўдзія Кузьмінічна, колькі куфляў было на стойцы пад час сутычкі Іванова-Чынгізханова з Каліноўскім?

***Козолупова.*** Сейчас подсчитаем. *(Лічыць на калькулятары.)* Два на три плюс один. Семь бокалов было на стойке. Точно – семь.

***Касцюшка.*** Колькі куфляў аказалася разбітымі пасля сутычкі Іванова-Чынгізханова з Каліноўскім?

***Козолупова.*** А никакой особой стычки или драки не было. Я думаю, что ветеран во гневе просто ахнул бокалом о стойку, а сам о землю.

***Касцюшка.*** Чаму вы так думаеце?

***Козолупова.*** Когда я услышала мат-перемат этого Батьевича, вышла на шум. А он уже храпит под стойкой, а в руке ручка от "куфля", как вы говорите. Он её так зажал, что и врачи пальцы не разжали. Так и увезли при оружии.

***Суворов*** *(у ярасці).* Сука капиталистическая!

***Сапежанка.*** На грамадзяніна Суворова накладваецца штраф у памеры двухсот мінімальных заробкаў. Акрамя гэтага ён выдаляецца з залы... Яшчэ пытанне да сведкі?

*Суворов выходзіць.*

***Касцюшка.*** Скажыце, пацярпелы быў у моцным ап'яненні, паколькі піва ў вас з падагрэвам?

***Козаолупова.*** Я бы не сказала. Рояля подливаю только для запаха.

***Касцюшка.*** Абарона больш пытанняў не мае.

***Сапежанка.*** Ад прысяжных таксама не паступілі... Сведка Козолупова, сядайце.

*Казалупава займае месца побач з Халуевічам.*

Козолупова

Прашу паклікаць эксперта Радзівіла.

*Уваходзіць Радзівіл.*

***Радзівіл.*** Радзівіл Кароль Мікалаевіч.

***Сапежанка.*** Адукацыя, месца работы, пасада?

***Радзівіл.*** Адукацыя вышэйшая, медыцынская, працую экспертам у інстытуце судова-медыцынскай экспертызы.

***Сапежанка.*** Спадзяюся, вы знаёмы з артыкулам аб адказнасці экспертаў перад законам.

***Радзівіл.*** Так, знаёмы. *(Падыходзіць да Агінскай, падпісвае паперу, вяртаецца да трыбункі).*

***Сапежанка.*** Паважаны дзяржаўны абвінаваўца, вядзіце допыт эксперта.

***Муравьёв.*** Ваше заключение...

***Радзівіл*** *(паспешліва).* Яно ў судовай справе...

***Муравьёв*** *(незадаволена).* Я об этом знаю. Письменное заключение не исключает вашего устного изложения доводов о причине смерти гражданина Иванова-Чингизханова Авангарда Батьевича.

***Радзівіл.*** Разумею. І хацеў бы адразу сакцэнтаваць увагу суда на тым, што ў дадзеным выпадку гаворка можа ісці не аб прычыне, а менавіта аб прычынах смерці. Пры аглядзе трупа Іванова-Чынгізханова была выяўлена закрытая траўма з кровападцёкамі не інтэнсіўнай сінюшнай афарбоўкай ў вобласці левай скроні. Пад ёй аказаўся пралом скроневай косці тры на два з паловай сантыметры. Відавочна, што ўдар быў нанесены тупым прадметам, або пацярпелы ўдарыўся аб тупы прадмет. што магло з'явіцца прычынай смерці. Механізм смерці ў гэтым выпадку мной падрабязна апісаны ў экспертным заключэнні. Ускрыццё трупа і вывучэнне стану сардэчна-сасудзістай сістэмы пацярпелага паказала, што смерць магла наступіць ад сардэчнай недастатковасці. Дарэчы, інфаркт у яго не быў першым. Даследаванні пацвердзілі, што да інфаркту, калі пацярпелы памёр менавіта ад яго, перанёс як мінімум два інфаркты, адзін з якіх можна аднесці да мікраінфаркту.

*(Працяг у наступным нумары)*

# Беларускі Салавей ў Віцебску

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

У Мілане адбылася прыемная сустрэча са спявачкай Анджэлікай Краўчанка, якая неўзабаве пазнаёміла Забэйду-Суміцкага з вядомым спеваком і педагогам Фернанда Карпі, паплечнікам славутага Каруза. Прафесар ахвотна прыняў у шэрагі сваіх вучняў таленавітага беларуса. Працаваў з ім над пастаноўкай голасу, адшліфоўкай опернага матэрыялу. Шаноўны маэстра быў у захапленні ад таленту і працавітасці маладога спевака. Наколькі паспяхова рухалася праца можна было зразумець з таго, што на працягу двух тыдняў Забэйда-Суміцкі здаў свайму настаўніку оперу "Манон" Маснэ на італьянскай мове. Тут нават Карпі, які нямала бачыў рознага ў сваёй прафесіі, быў прыемна здзіўлены: "Вы ў мяне за два тыдні зрабілі тое, што іншыя не зробяць і за паўгода. Каб мы, італьянцы, мелі Вашу працаздольнасць, дык заваявалі б увесь свет". Дзякуючы пратэкцыі Ф.Карпі, Забэйда-Суміцкі пасля навучання трапляе ў Міланскую оперу "Ла Скала". Ён першы з беларусаў, які выступаў на славутай сцэне, дзе неўзабаве заняў трывалае становішча. Спяваў на італьянскай мове ва ўсіх класічных операх, выконваючы ўсе вядомыя тэнаровыя партыі. Якраз у той час у Мілан наведаўся Леанід Собінаў. Убачыўшы Забэйду-Суміцкага ў ролі Ленскага, славуты спявак захоплена адзначыў: "Як Вы мне напамінаеце мае лепшыя гады маладосці". Ён пакінуў Забэйду-Суміцкаму свой адрас, запрасіў прыехаць у Маскву. Мяккі лірычны голас, тонкая дэталёвая нюансіроўка, глыбіня і шматграннасць настрояў, - якраз усё гэта было закладзена ў вакальную прыроду Забэйды-Суміцкага, што прычынілася да жаданых вялікіх поспехаў у шмат якіх гарадах Італіі, якія наведаў у час нярэдкіх гастроляў. Італьянская прэса асабліва падкрэслівае яго інтэрпрэтацыю, інструментальнасць голасу, паэтычную душу, здзіўляючую здольнасць выразіць самыя разнастайныя тонкія настроі, захапіць, зачараваць слухачоў. За чатыры гады, пражытыя ў Італіі, Забэйда-Суміцкі вырас у шырокавядомага майстра вакалу, якога высока ацанілі і тагачасныя крытыкі, і захопленая новай тэнаровай зоркай ўдзячная публіка...

А ён усё часцей і часцей нудзіўся па Беларусі, нярэдка на адзіноце для супакаення сам сабе спяваў незабыўныя песні роднага краю. Аднойчы атрымаў з родных Шэйпічаў сумную вестку: моцна захварэла яго маці і вельмі хоча бачыць адзінага сына. Усхваляваны Забэйда-Суміцкі пакідае чарадзейную краіну і ў 1935 г. едзе дадому, дзе неўзабаве адбылася хвалюючая сустрэча з роднай матуляй. Яны не бачыліся каля 16 доўгіх гадоў. Незабыўным застаўся для землякоў той першы канцэрт, які даў Забэйда-Суміцкі на Радзіме ў Ружанах у прысутнасці сваёй маці, што ўпершыню слухала спевы свайго дарослага сына. Гучнымі шчырымі авацыямі ўзнагароджвалі мясцовыя слухачы свайго славутага земляка. А калі канцэртант звярнуўся да прысутных з хвалюючымі словамі: "Калі я пакідаў маці, дык гэтую калыханку спявала мне яна, а цяпер, вярнуўшыся, я ўжо сам ёй заспяваю", - і пранікнёна заспяваў несмяротную беларускую калыханку, - публіка літаральна ашалела ад перапоўненасці пачуццяў. Бясконцыя авацыі і воклічы гэтым разам падзялілі паміж сабой і слухачка-маці і спявак-сын.

Як знакаміты спявак Забэйда-Суміцкі быў ужо вядомым і ў польскіх музычных колах. Неўзабаве ён быў запрошаны ў Познаньскую оперу. Там ён выступаў са звычным поспехам у операх "Галька" Манюшкі, "Яўгеній Анегін" Чайкоўскага, "Севільскі цырульнік" Расіні і інш. Калі скончыўся кантракт, Забэйда-Суміцкі пакінуў оперу і перайшоў на канцэртную эстраду. Падставы для змены працы былі сур'ёзныя. Ён не мог згадзіцца з умовамі польскіх шавіністаў ад культуры, - нідзе і ніколі не ўспамінаць, што ён беларус. Абяцалі за гэта, як "паляку", вядучыя партыі, высокія ганарары, гастролі ў сталіцах Еўропы і Амерыкі. "Адмовіцца ад свайго народа, ад роднай мовы - тое самае, што адмовіцца ад маці", - адказаў абураны Забэйда-Суміцкі. "Я беларус, беларусам і памру!". Давялося панам лічыцца, што тэнар-прэм'ер-беларус, бо меў ён у той час у культурным свеце імя высокага гучання. На канцэртах, якія праходзілі на высокім мастацкім узроўні ў Варшаве, Вільні, Рызе, Беластоку, Гродне, Брэсце, Баранавічах інш. гарадах, Забэйда-Суміцкі разам з творамі сусветнай класікі (Манюшкі, Шуберта, Бетховена, Чайкоўскага, Рахманінава, інш.) абавязкова спяваў беларускія народныя песні ("Малады дубочак", "Лявоніха", "Цераз сад-вінаград", "Кукавала зязюля", "Калыханка", "Ляціць сарока" і інш.), а таксама выконваў творы беларускіх кампазітараў: Галкоўскага, Аладава, Туран-кова, Чуркіна. Заварожаная публіка горача паўсюль прымала ўпадабанага спевака. Прасіла спяваць яшчэ і яшчэ. Пасля вялікага канцэрту ў Вільні (у 1936 г.) моладзь падхапіла любімага канцэртанта і панесла яго праз усю залу на руках пад няўмоўчную ўрачыстую авацыю. Забэйду-Суміцкага літаральна закідвалі кветкамі, вяночкамі, а сам канцэрт пераўтварыўся ў свята нацыянальнага згуртавання беларусаў. Гэтая неардынарная падзея выклікала выключна станоўчыя водгукі ў прэсе. Не менш за іншых уражаны Максім Танк пісаў неўзабаве: "Зусім іначай спяваў М.Забэйда-Суміцкі. З першых слоў ён нябачнымі пальцамі адчування ўзяў гэта сэрца песні, палажыў яго на асцярожныя далоні дзіўнага голасу і абвеяўшы чарамі, задумай, панёс яго, здаецца на растайныя дарогі, між саламяных стрэх. між каласоў, затопленых у сонцы, раскалыханых ветрам. І ці ж можна было не адчуць і не пайсці за песняром..."

"Мелодыі нашага народа адкрывалі мне дарогу да людскіх сэрцаў, - казаў пазней Забэйда-Суміцкі, хоць гэтая дарога не абяцала вялікай кар'еры ў Польшчы, я не мог жыць без роднай, без матчынай песні, я нёс яе ў свет, паказваў яе красу, узбагачаючы гэтай песняй сусветную культуру. "Многіх здзіўляла, як гэта ён вандруючы доўгія дваццаць гадоў па свеце – у Расіі, Маньжурыі, Італіі інш. краінах – вынасіў пад сэрцам і захаваў чыстымі такія бясцэнныя скарбы, як родная песня, родная мова. А гэта з'яўляецца не толькі сродкам духоўнай сувязі з зямлёй бацькоў, але і сэнсам творчага існавання.

Пераехаўшы ў Варшаву, Забэйда-Суміцкі часта выступае па польскім радыё. У яго рэпертуары разам з шэдэўрамі еўрапейскай музыкі выконвалася на роўных у поўным бляску і красе і беларуская песня, якая нязменна карысталася вялізным поспехам.

1 верасня 1939 г. з нападу фашысцкай Германіі на Польшчу пачалася 2-ая сусветная вайна. Вясною 1940 г. Забэйда-Суміцкі мусіў пакінуць акупаваную немцамі Варшаву і пераехаў жыць у чэшскую Прагу. Там ён неўзабаве быў запрошаны на працу ў Народны тэатр. Ужо на першыя яго выступленні на мясцовай сцэне вядучыя музычныя крытыкі адказаліся добразычлівымі публікацыямі ў прэсе. "Народні стршэд" пісаў: "Сапраўднай мастацкай падзеяй было канцэртнае выступленне беларускага спевака М.Забэйды-Суміцкага, які зноў, як і ў ролі Ленскага ў оперы "Яўгеній Анегін" Чайкоўскага, паказаў сябе спеваком сусветнага маштабу. Ён валодае сваім сакавітым і гнуткім голасам з віртуозным майстэрствам. Захапляе буйнай сілай і ціхімі танамі... Найбольшага поспеху, натуральна, дасягнуў у беспадобна дасканалым выкананні ўкраінскіх і беларускіх песень, цудоўным хараством якіх здолеў захапіць прыдзірлівага слухача..."

І ўсё ж нялёгка і трывожна жылося Забэйду-Суміцкаму пад час нямецкай акупацыі. Ён быў нават абвінавачаны акупацыйнымі ўладамі ў прапагандзе агульнаславянскіх ідэй за выкананне ў кожным са сваіх канцэртаў, акрамя родных беларускіх, лепшых песняў іншых славянскіх народаў. У 1944 г. па ілжывых абвінавачваннях прыхварэлы спявак некаторы час правёў вязнем у гестапаўскіх турмах.

У пасляваеннай Чэхаславакіі цудоўны голас Забэйды-Суміцкага з новай сілай, раскавана і вольна, загучаў ў лепшых канцэртных залах, па радыё, на самых прэстыжных фестывалях. Багаты рэпертуар заўсёды свежа зіхацеў лепшай сусветнай класікай, шчодра поўніўся народным песенным багаццем. Паўсюль яго чакалі высокія адзнакі-ўзнагароды, нязменная любоў слухачоў...

Быццам дасягнуў беларускі Салавей зайздросных вышынь у вакальным мастацтве, належнай пашаны ў грамадстве, а задаволенасці жаданай не ставала. Усё часцей і вастрэй муляла збалелае сэрца неадчэпная туга па Радзіме, якую наглуха адгарадзіла ад вакольнага культурнага свету шчыльнай жалезнай заслонай тагачаснае сталінісцкае кіраўніцтва СССР. Але нечакана там наступіла так званая хрушчоўская адліга, і гэткую спрыяльную нагоду ў 1963 г. паспяхова выкарысталі лепшыя беларускія культурныя дзеячы Шырма, Александроўская, Глебка, Алоўнікаў, Броўка і інш., каб афіцыйна запрасіць Забэйду-Суміцкага на гастролі ў Беларусь. Па дазвол на ажыццяўленне такой мірнай акцыі мусілі звярнуцца ў ЦК КПБ.

На Бацькаўшчыну Забэйда-Суміцкі прывёз густанасычаную самымі разнастайнымі творамі праграму. Адзінаццаць цудоўных хвалюючых канцэртаў даў на Радзіме (з 11.05. па 4.06. 63г.) беларускі Салавей: тры ў Менску, па адным – у Віцебску, Магілёве, Гомелі, Гродне, Ваўкавыску, Слоніме, Лідзе, Баранавічах. У рэпертуары значыліся лепшыя набыткі сусветнай класікі і песні розных народаў, якія выконваліся на мовах іх стваральнікаў: італьянскай, нямецкай, іспанскай, англійскай,чэшскай, славацкай, рускай, польскай, ўкраінскай, але найбольш – на беларускай. Паўсюль выдатнаму спеваку спадарожнічалі нязменны заслужаны поспех сярод удзячных слухачоў, шчырыя сардэчныя сустрэчы з землякамі...

Мне пашчасціла слухаць спевы славутага земляка, сустрэцца з ім. 17 траўня 1963 г. старажытны горад Віцебск упершыню прымаў вядомага ўсяму культурнаму свету, але, на жаль, амаль невядомага на Радзіме, беларускага Салаўя – Міхася Забэйду-Суміцкага. І ўсе, хто набыў у тую памятную пятніцу білеты на яго такі незвычайны канцэрт, не памыліліся, чакаючы выдатнага незнаёмца ў паўнюткай зале гарадскога дома культуры.

Роўна ў вызначаны час на сцэну да публікі лёгкім крокам выйшаў стройны, элегантны, з іскрыстым паглядам і шчырай ўсмешкай славуты спявак. З належнай годнасцю пакланіўся прысутным, паважна прадставіў слухачам калегу па гастролях, вядомага чэшскага піяніста Здэнака Кажыну. Кінуўшы ў запоўненую залу светлы, такі свойскі позірк, быццам не ўпершыню тут выступае, Забэйда-Суміцкі пачаў крыху ўсхваляваным, ціхім, але выразным і чутным усюды меладычным голасам шчырую размову – знаёмства з віцяблянамі на чысцюткай беларускай мове. Вельмі коратка, сціпла, без знаку на эфект, ён расказаў пра сябе, пра маці сваю. простую сялянку-гаротніцу, якая навучыла малодшага сына па-сапраўднаму любіць родную беларускую песню, як у знак незгасальнай памяці аб ёй ўслед за бацькавым Забэйда дадаў і насіць і яе дзявочае прозвішча – Суміцкі. Казаў, як бязмежна рады і шчаслівы ад знаходжання на роднай беларускай зямлі. Потым заспяваў своеасаблівай арыгінальнай манерай, датуль мне не знаёмай, але такой незвычайна вабнай і пранікнёнай. Бы з нутра прачулай душы ішоў той прыемны шчымлівы спеў, несучы непасрэдна ў слухацкае сэрца добра вядомую яшчэ з маленства светлую матуліну мелодыю: "А-а, люлі, спі сыночак міленькі, галубочак шызанькі..." Я не памятаю, калі б яшчэ так моцна і ўладарна дзейнічала на мяне простая народная песня, хоць слухаў і раней нямала добрых яе выканаўцаў. Я забыўся на тое, што знаходжуся сярод людзей. У непарушнай зальнай цішы гаспадарыла спрадвечная матчына песня, - беларуская калыханка, - пад якую аднолькава спакойна засыналі некалі нашы дзяды і бацькі, мы самі, а зараз адыходзяць да сну нашы дзеці і ўнукі. Па сканчэнні калыханкі я ўбачыў вакол сябе расчуленых людзей, іх шчасліва-прасветленыя твары. Дружныя шчырыя воплескі ўзнагародзілі незвычайнага чараўніка за атрыманую рэдкую асалоду, за хвалюючае чуйныя душы высокае мастацтва. Так, ад самага пачатку неардынарнага канцэрта, узнік хоць і не бачны, але станоўча-трывалы кантакт паміж выдатным выканаўцам і ўдзячнымі слухачамі. Разам з іншымі найбольш уражанымі прыхільнікамі я дачакаўся з'яўлення ўпадабанага спевака ля невялічкага аўтобуса, якім ён прыехаў у Віцебск і мусіў неўзабаве ад'ехаць пасля канцэрту, кіруючыся да Магілёва. Я аказаўся сярод прысутных, мабыць, самым смялейшым. Падзякаваўшы шаноўнага Маэстра за такі цудоўны канцэрт, за хвалюючыя душу спевы, я папрасіў Міхася Іванавіча ад імя яго шчырых прыхільнікаў яшчэ раз наведаць наш старажытны Віцебск, каб зноў так шчыра парадаваць прыгожымі спевамі не толькі сённяшніх слухачоў, але і многіх новых, каму ў гэты шчаслівы вечар не пашанцавала трапіць на такі ўражальны канцэрт. "Гэта, хлопча, не ад мяне залежыць, - з непрыхаванай скрухай і шкадаваннем адказаў вялікі спявак – я ў Вашым цудоўным горадзе гатоў спяваць калі трэба і колькі трэба". Паціснуўшы на развітанне маю руку, кінуўшы прыязна астатнім праважатым, Забэйда-Суміцкі неяк па-маладому лёгка прайшоў па сходцах у аўтобус і неўзабаве адехаў з добрай ўсмешкай на прасветленым твары, яшчэ доўга развітальна махаючы нам рукой...

Звыш 40 гадоў пражыў у Празе слынны беларускі спявак, хвалюючы сваімі нястомнымі ўзнёслымі спевамі культурную грамадскасць сваёй другой радзімы, з'яўляючыся пастаянным членам Саюза музыкаў. У братняй Чэхаславакіі будуць доўга памятаць Забэйду-Суміцкага і як таленавітага педагога.

Увесь пасляваенны час Міхась Іванавіч нястомна чакаў магчымасці вярнуцца на Бацькаўшчыну, дзе пражыў ўсяго толькі 15 падлеткавых гадоў, але шчырую любоў пранёс у глыбінях шчымлівага сэрца праз усё свядомае жыццё. І нават усю сваю творчую спадчыну завяшчаў цалкам мілай незабыўнай Беларусі. А сам так і не дачакаўся ані належнага прыжыццёвага прызнання на Радзіме, ані права знайсці сабе хаця б вечны спачын у роднай зямельцы...

21 снежня 1981 г. М.Забэйды-Суміцкага не стала. Належна ўшанаваны ў Чэхаславакіі, ён пахаваны ў Празе на Альшанах. На помніку пазначаны апошнія развітальныя словы на беларускай і чэшскай мовах: "Жыў песняй і песняй даваў людзям радасць".

Я, пасля таго незабыўнага вельмі ўражлівага канцэрту ў Віцебску, шчодра падоранага М.Забэйдам-Суміцкім цікаўным віцяблянам, больш ніколі не бачыў яго. Праўда пасля, аж 17 гадоў, да самай яго смерці, мне пашчасціла ліставацца з вялікім спеваком. Той жыватворны ўплыў з боку сапраўднага беларускага адраджэнца на мяне, тадышняга недаспелага саўка, пераўзышоў усе іншыя выхаваўча-асветніцкія крыніцы бягучага жыцця. Уся атрыманая з Прагі разнастайная інфармацыя па беларушчыне, яе ўплывовая патрыятычная скіраванасць актыўна спрыяла маёй самаадукацыі, як па-сапраўднаму шанаваць сваю мілую Бацькаўшчыну, шчыра любіць самую родную, самую прыгожую ў свеце краіну, сваю сінявокую Беларусь, не зважаючы на саўковыя казачкі для працячкоў пра так званы "коммунистический рай".

М.Забэйда-Суміцкі з'яўляўся своеасаблівым маяком незнішчальнай беларушчыны, вечнай, як само жыццё. Ён добра разумеў яшчэ з даваенных часоў сапраўдную злачынную сутнасць кампартыйнага сталінізму і яго пасляваенных паслядоўнікаў, якія бязлітасна нішчылі лепшыя набыткі беларушчыны, паўсюль у гарадах і мястэчках зачыняючы беларускія школы, ігнаруючы ўжыванне беларускай мовы на дзяржаўным узроўні, фальсіфікуючы гісторыю Беларусі, пераследуючы або рэпрэсуючы лепшых беларускіх нацыянальных дзеячоў. Гэтай нялюдскай жывёльнай скіраванасці, бруднай кучцы нікчэмных палітыкаў слынны спявак супрацьпаставіў актыўную папулярызацыю беларускіх народных песняў за межамі Бацькаўшчыны і, дзякуючы прыроджанаму таленту і высокаму майстэрству, паўсюль меў на гэтай ўдзячнай ніве выдатныя поспехі, плённыя вынікі, ён ніколі не хаваў свайго крытычнага стаўлення да ворагаў беларушчыны, і яны добра ведалі і памяталі пра гэта. Таму і быў беларускі Салавей асобай непажаданай для кампартыйнай сістэмы, таму і не атрымаў законнага права вярнуцца ў родную Беларусь на сталае жыццё для працягу сваёй расквітнелай творчай дзейнасці на карысць Бацькаўшчыны мілай...

***Мікола Плавінскі***

# Давайце спяваць па-беларуску

## *Інтэрвію Алеся Гурыновіча з Эдуардам Акуліным*

***--Калі і як пачаўся ваш творчы шлях.***

--Першы свой верш напісаў у 12-ць гадоў, на рускай мове, называўся ён "Родина". Першы беларускі верш з'явіўся ў дзевятым класе, пад назвай "Бесядзь", ён быў змешчаны ў часопісе "Бярозка". За гэты верш я стаў лаўрэатам конкурсу – "Я табе Беларусь шчыра песню пяю".

Калі ў Гомелі ў 80-м годзе вучыўся ў ГДУ на гісторыка-філалагічным факультэце, напісаў першую песню "Сумую без тваіх воч" для ўтворанага намі рок-гурта "БАСКІ". Назва была ўзята па найменні народа ў Іспаніі, а таксама па першых літарах прозвішч удзельнікаў. Гэта Бяляцкі Алесь – зараз старшыня праваабарончага цэнтра "Вясна", Я, Акулін Эдуард, Скачынскі Сяргей – зараз загадчык аддзела культуры Веткаўскага раёна і Кавалёў Анатоль, які цяпер настаўнічае на Гомельшчыне.

Так, што першыя песні пісаў для нашага рок-гурта, пасля яны ўвайшлі ў мой бардаўскі рэпертуар. Спяваў пад гітару ў будатрадах, перад сябрамі на розных універсітэцкіх імпрэзах.

У 1984 годзе адбыўся мой тэлевізійны дэбют, абласное тэлебачанне ў асобе Таццяны Сапач запрасіла мяне зрабіць аўтарскую перадачу, я згадзіўся. У перадачы прагучала сем маіх песень і прыкладна столькі ж вершаў. У гэтым жа годзе, а я ўжо вучыўся на 5-м курсе, завёз у Менск у выдавецтва "Мастацкая літаратура" рукапіс свайго першага зборніка вершаў – "Лёс дзённага асвятлення".

***--Раскажыце, калі ласка, пра вашыя творчыя набыткі.***

--Я напісаў недзе каля 50-ці песень. Вершаў не лічыў, яны ўвайшлі ў мае паэтычныя кнігі – "Лёс дзённага асвятлення" (1988 г.), "Пяшчота ліўня" (1990 г.), "Крыло анёла" (1995 г.), у 1996 годзе выйшла драматычная містэрыя "На каляды". Таксама ў 1996-м пераклаў з нямецкай мовы на беларускую твор аўстрыйскай паэткі Міры Лобэ "Маленькая я – гэта я", якая выйшла накладам у 14-ць тысяч асобнікаў.

У гэтым годзе павінна была пабачыць свет мая кніга вершаў "Радно", але пасля таго, як наклад быў аддрукаваны, яна была знішчана па палітычных матывах. Калі ў мяне не атрымаецца выдаць зборнік на Радзіме, то я зраблю гэта за мяжой. А пакуль што я з'яўляюся аўтарам самага "рарытэтнага" выдання ў дзесяць асобнікаў.

З музычных набыткаў я маю два магнітаальбомы, гэта "Мая Крывія" (1995 г.), "Як яна і я" (2000г.). У гэтыя дзьве касэты ўвайшлі 38 песень. Атрымалася цікавае супадзенне, 37 з іх уласна мае па колькасці маіх год, а 38-я на словы Максіма Багдановіча.

***--Скажыце колькі слоў пра вашу сям'ю, працу.***

--Працую загадчыкам філіі музея Багдановіча "Беларуская хатка", жонка Наталля – навуковы супрацоўнік гэтага музея. Гадуем двух сыноў. Янка вучыцца ў 9-м класе, Верас у 3-м класе Менскай гімназіі №10. Гэта была беларуская гімназія, але зараз там выкладанне пераведзена на рускую мову. Гэта тлумачаць адсутнасцю беларускіх падручнікаў, настаўнікаў. Але прычына тут насамрэч як усім вядома ў палітыцы, праводзімай цяперашнімі ўладамі.

***--Вашы творчыя планы.***

--Калі дасць Бог, пастараюся яшчэ раз у гэтым годзе выдаць кнігу вершаў "Радно", пушчаную пад нож. Наладзіць шэраг прэзентацый гэтай кнігі і майго новага магнітаальбома "Як яна і я".

Адна з прэзентацый магчыма адбудзецца гэтым летам у Чырвоным Касцёле.

***--Хто Вам падабаецца з беларускіх творцаў.***



--Люблю і паважаю творчасць Рыгора Барадуліна. Ніла Гілевіча, Дануты Бічэль-Загнетавай, Леаніда Галубовіча, Леаніда Дранько-Майсюка, Галіны Булька, Анатоля Сыса, Барыса Пятровіча, Міхася Скоблы...

Маім духоўным настаўнікам з'яўляецца Максім Багдановіч, захаванне памяці якога для мяне вялікі гонар. "Беларуская хатка" -- апошні прытулак Максіма на Радзіме, тут ён напісаў "Пагоню", паэму "Страцім – Лебедзь".

***--Што б Вы пажадалі ТБМу і "Нашаму слову".***

--Я пажадаў бы, каб прыйшоў час, калі Таварыства будзе змагацца не за існаванне беларускай мовы, а за яе чысціню, пашырэнне сферы яе ўжывання, за ўдасканаленне правапісу. А "Нашаму слову" ператварыцца з газеты Таварыства ў выданне, якое б ведалі і чыталі ў кожнай беларускай сям'і.

*Гутарыў Алесь Гурыновіч.*

## Страцім-Лебедзь

**Словы і музыка Э.Акуліна**

*Am Dm*
Я помню, што гэта ўжо колісь было –
*E Am*
Каляпы, завейная шчырасць...
*Am Dm*
Сумёт за балоннем – узняты крылом
*E Am*
Луг-лебедзя гнанага ў вырай.
*E7*
І ты ўслед за ім, як крывіцкі Ясон,
*Dm*
Памкнуўся, паверыўшы ў мару...
*Dm Am*
А слуцкага паса цяжкое руно –
*Dm E Am*
Царкоўным заззяла арнатам...

**Прыпеў:**
*Am Dm Gm*
Столькі вёсен і зім -- адзін.
*C Am*
Ты даруй нам усім – Максім!
*Dm E*
Без'языкім, сляпым , глухім
*E Am*
І душою парожнім...
*Dm Gm*
Столькі вёсен і зім, і зім.
*C Am*
Ты вышэй ад усіх, Максім,
*Dm E*
Да цябе мы ўсе ляцім –
*Am*
Як можам...

Ды раптам з нябыту ўзнікла Яно
Паўночнай парой сяродзім'я.
Валошка, што ўмерзла ў ваконнае шкло –
Погляд твой растайны, Максіме.
Няма таго болей, што колісь было,
І я аб тым не шкадую.
Ды толькі валошка твая ўсёадно –
Карэннем мне сэрца свідруе...

**Прыпеў:**
**Той жа. Апошні рэфрэн:**
*Am Dm E*
Да цябе даляцець нам сіл –
*Am*
Дай Божа!

## Вясна – 2000

**Словы і музыка Э.Акуліна**

*Am*
Столькі год маны.
*F*
Столькі год віны.
*Dm E*
Столькі год з ярма нас не пушчалі...
*Am*
Ды сталелі мы.
*F*
Ды дужэлі мы.
*Dm E*
Крылы нашай мары адрасталі!

**Прыпеў:**
*Dm Gm C*
І ўжо ў нябёсах, як заклён, гучыць: -
*Dm E Am*
Беларусь жыве і будзе жыць!
*Dm Gm C*
Тысячагалосая вясна гучыць: -
*Dm E Am*
Беларусь жыве і будзе жыць!

Да пляча плячо.
Як не я – то хто?
Беларусь ад здрады ўратуе...
Воля ці ярмо?
Як не ты – то хто?
Нам Радзіма здрады не даруе.

***Прыпеў:***
***Той жа.***

З намі разам Бог!
З намі разам Сцяг!
З намі разам нашая Пагоня!
Як не я – то хто?
Як не ты – то хто?
Беларусь ад здрады абароніць...

## Смак ажын

**Словы і музыка Э.Акуліна**

*Am Dm*
Мой погляд размылі туманы.
*E Am*
Мой гнеў – як загублены нож...
*Am Dm*
Мой смутак – нібы несціханы
*E Am*
Кастрычніцкі помслівы дождж.
*E7 Dm*
Твой погляд – зялёная зорка.
*Gm C*
Твой гнеў – ненароджаны сын...
*Am Dm*
Твой смутак пранізліва-горкі –
*E Am*
Як смак недаспелых ажын.

**Прыпеў:**
*Dm Gm C Am*
Не кажы, не кажы, не кажы мне "Бывай" –
*Dm E Am*
Не кажы, не кажы, не кажы...
*Dm Gm*
Смак ажын, смак ажын,
*C Am*
смак ажын успамінай –
*Dm E Am*
Смак ажын, смак ажын, смак ажын.

Я веру, што вернецца Лета
З маленнем растайнай імшы.
І словы над сонным Сусветам:
--Нічога прашу не кажы...

**Прыпеў:**
**Той жа. Апошні рэфрэн:**
*Dm E Am*
Недаспелых гаркавых ажын...

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 5. 06. 2000 г.
Наклад 3200 асобнікаў. Замова № 1526
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 147 руб., 3 мес.- 441 руб.
***Кошт у розніцу:*** 35 руб.